



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

19 верасня 2014 года №38 (1012)




## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### На месцы расстрэлу не спыняць будоўлю

**ВАЛОЖЫН.** Да такой высновы зводзяцца адказы чыноўнікаў. Паводле іх, падстаў спыняць будоўлю няма, усё па законе, а падчас грамадскага абмеркавання заўваг і прапаноў не было. На месцы масавых расстрэлаў яўрэяў у гады Другой сусветнай вайны ў Валожыне працягваюць будаваць жылы квартал, паведамляе БелаПАН.

### У Мядзеле пройдзе першае свята горада

**МЯДЗЕЛ.** У райцэнтры 20 верасня ўпершыню пройдзе свята горада. У тэатралізаваным прадстаўленні "З глыбіні стагоддзяў" прыгадаюць гісторыю Мядзела. Пакажуць выставы. Пройдзе ўрачыстая рэгістрацыя шлюбу і іншае. Асноўныя мерапрыемствы свята будуць на плошчах Шаранговіча і Леніна. Пачатак у 11 гадзін.

### Скульптуры з сыру пакажуць у Гродне

**АШМЯНЫ.** Ашмянскі сыраробны завод паўдзельнічае ў "Сырным фестывалі". Ён пройдзе 19-20 верасня ў Гродне. Сваю прадукцыю прывязуць яшчэ чатыры заводы-вытворцы. Аб гэтым БелТА паведаміла **Святлана Палчанкова**, намеснік дырэктара Цэнтра культуры "Гродна".

### Затрымалі 12 нелегалаў

**АСТРАВЕЦ.** 16 верасня, у аўторак, смаргонскія памежнікі затрымалі ў Астравецкім раёне 12 нелегалаў з В'етнама. Толькі ў чацвярых з іх былі пашпарты. За верасень ўсяго ўзбудзілі тры крымінальныя справы за арганізацыю незаконнай міграцыі. Аб гэтым БелТА паведамілі ў прэс-службе Дзяржпагранкамітэта.

### Інтэрнэт будзе больш хуткі

**ВІЛЕЙКА.** Вядуць працы па мадэрнізацыі тэлефоннай сеткі мікрараёна завода "Зеніт". У дамах №№55, 59 па вуліцы Талстога і №74 па вуліцы Чапаева існуючыя медныя ліні сувязі мяняюцца на оптавалаконныя. Яны дазволяць атрымаць увесь комплекс сучасных паслуг ад "Белтэлекама". Працы ў гэтых дамах плануецца завяршыць у верасні, паведаміў начальнік вузла электрасувязі **Уладзімір Мароз**. Да оптавалаконных ліній збіраюцца падключаць і іншыя дамы ў мікрараёне завода "Зеніт".

### На трасе павысілі хуткасны рэжым

**МАЛАДЗЕЧНА.** На трасе Мінск-Маладзечна ДАІ ўстанавіла новыя знакі. Яны павялічваюць хуткасць руху ў абодвух накірунках – як пры руху на Мінск, так і пры руху на Маладзечна. Цяпер замест 90 км/г аўтамабілісты змогуць ехаць з хуткасцю 100 км/г, паведамляе Беларуская служба навін.

**Аддзел інфармацыі.**

# Навучэнец каледжа зарабіў 15 мільёнаў на АЭС

**МАЛАДЗЕЧНА. АСТРАВЕЦ. Патраціў грошы Андрэй Рабушка на рамонт сваёй машыны "Шкода".**

Навучэнцы маладзечанскага політэхнічнага каледжа Андрэй Рабушка, **Уладзіслаў Шляпа**, **Ігар Зелянкевіч**, Дзмітры Марочка працавалі тынкоўшчыкамі, малярамі. Рабілі фасад пажарнага дэпо побач з АЭС, уцяплялі яго. Перш чым узяцца за працу, прайшлі стажыроўку.

**Дзмітры Марочка** зарабіў 12 мільёнаў – на паездку ў Швецыю. Астатнія хлопцы адклалі грошы на вучобу і іншыя патрэбы.

## Рабілі адкосы палкай-малкай

– Нас замацавалі за рабочымі, якія паказвалі, што мы павінны рабіць, – расказвае навучэнец Андрэй Рабушка. – Навучылі правільна рабіць адкосы спецыяльнай палкай-малкай.

Як прызнаецца хлопец, працаваць было не цяжка. Яны ўжо былі на практыцы ў каледжы, многае ведалі тэарэтычна. На працы дапамагалі майстры, прарабы.

– Калі мы не ведалі чагосьці, то тлумачылі, дзяліліся хітрасцямі прафесіі, – тлумачыць Андрэй. – Я і цяпер кантактую з майстрам **Антонам** і прарабам **Сашам**. Мне так спадабалася на працы, што дадому вяртацца не хацелася.

## На АЭС працавалі і студэнты з Расіі

Хлопец прызнаецца, што дысцыпліна на будоўлі АЭС выдатная. Кожны займаецца сваёй справай. Фатаграфавацца побач са станцыяй і на ёй нельга.

Працоўны дзень пачынаўся ў восем раніцы і доўжыўся да пяці гадзін дня. Але па жаданні рабочыя маглі працаваць і да самі вечара. Можна было дадаткова выходзіць па суботах.

Жылі навучэнцы ў двухпакаёвай кватэры ў Астраўцы. У доме для работнікаў АЭС жылі і навучэнцы іншых каледжаў, студэнты з Расіі. Былі і работнікі са Смаргоні. Іх на працу падвозіў аўтобус.



Фота Настассі РОЎДА.

Злева направа: Уладзіслаў Шляпа, Андрэй Рабушка, Дзмітры Марочка. Летам навучэнцы Маладзечанскага політэхнічнага каледжа працавалі на Астравецкай АЭС.

## Паехалі на працу адразу пасля сесіі

Навучэнцы паехалі на АЭС праз дзень пасля сесіі, 15 ліпеня. Працавалі больш за месяц. Паспрабаваць уладкавацца на АЭС прапанавала **Ганна Літвіненка**, куратар групы.

– Як Ганна Браніславаўна нам расказвала, ёй патэлефанавалі былы вучань. Сказаў, што на Астравецкую АЭС набіраюць будаўнічы атрад. Яна прапанавала паехаць і нам. Я адразу пагадзіўся, бацькі падтрымалі. І недарэмна – добра зарабіў, – падсумоўвае Андрэй Рабушка.

Ад 22 верасня на Астравецкай АЭС хлопцы будуць праходзіць практыку. Пад час яе атрымаюць рабочую спецыяльнасць.

Цяпер на Астравецкай АЭС на другім энергаблоку ўстанавілі арміраваны каркас. Зманціравалі першы ўнутраны энергаблок ахоўнай абалонкі. Збудаванне станцыі перайшло ў наземную стадыю будаўніцтва. Таксама завяршылі зборку верхняга паўкорпуса рэактара для першага блока.

**Галіна СІНІЦА.**

● МЕДЫЦЫНА

# Цэны на кансультацыі дактароў выраслі

**У Смаргонскай бальніцы цэны на кансультацыі дактароў выраслі ад 20 да 50 тысяч рублёў. А ў прыватных медыцынскіх цэнтрах –ад 100 да 200 тысяч.**



Фота kevinmd.com.

Хварэць цяпер дорага — па кашальку людзей ўдараць цэны на медыцынскія кансультацыі дактароў-спецыялістаў.

Любога спецыяліста ў паліклініцы можна прайсці платна. Спачатку трэба звярнуцца ў рэгістратуру, каб даведацца, калі працуе патрэбны вам спецыяліст. Затым аплаціць паслугу. Чакаць у чарзе, калі вас прыме доктар, не трэба. Пацыенты з аплатай ідуць да доктара без чаргі.

– У бальніцах платныя кансультацыі аказваюць па магчымасці, – расказвае **Тэрэза Кісель**, начальнік аддзела цэнаўтварэння і гаспадарчаразліковых адносінаў. – Калі спецыяліст не на аперацыі, не на абходзе, ён вас прыме. У адваротным выпадку, прыйдзецца пачакаць ці дамовіцца на іншы час.

Сёлета ад 24 ліпеня цэны на платныя кансультацыі дактароў-спецыялістаў дзяржава не кантралюе. Гэта прапісана ў адпаведнай пастанове Саўміна. Як гэта рашэнне паўплывала на расцэнкі ў бальніцах і медцэнтрах, высвятляла карэспандэнт "РГ".

## Плануюць павялічыць цэны ў Валожыне

На платныя кансультацыі цэны не змяніліся ў Ашмянскай, Валожынскай, Вілейскай, Маладзечанскай і Мядзельскай бальніцах.

У Валожыне цэны на платныя кансультацыі плануюць павялічыць ад першага кастрычніка. Аднак нязначна, прыблізна на 10%.

Ад першага жніўня цэны павялічыліся ў Смаргонскай цэнтральнай раённай бальніцы. Раней кансультацыя доктара-спецыяліста была не вышэй за 20 тысяч рублёў.

У адным з прыватных медыцынскіх цэнтраў у Маладзечне кансультацыя доктара-спецыяліста каштуе каля 200 тысяч рублёў. Раней яна была ўдвая танней. Прымаюць пяць спецыялістаў: неўролаг, кардыёлаг, эндакрынолаг, гінеколаг, мамолаг, паведаміла адміністратар медыцынскага цэнтра **Таццяна Костачка**.

У іншым маладзечанскім медыцынскім цэнтры кансультацыя спецыялістаў каштуе па-ранейшаму 100 тысяч рублёў, паведаміла яго бухгалтар **Вольга Нарошнік**.

**Галіна СІНІЦА.**

### Цэны на кансультацыі дактароў-спецыялістаў

| Цэнтральныя раённыя бальніцы | Кансультацыі дактароў | | |
|---|---|---|---|
| | 2 катэгорыі | 1 катэгорыі | Вышэйшай катэгорыі |
| Ашмяны | – | Тэрапеўт – 33200 рублёў Хірург – 38550 рублёў | Тэрапеўт – 34000 рублёў Хірург – 40150 рублёў |
| Валожын | Тэрапеўт – 53200 рублёў Хірург – 58050 рублёў | Тэрапеўт – 59600 рублёў Хірург – 60400 рублёў | Тэрапеўт – 60900 рублёў Хірург – 62900 рублёў |
| Вілейка | Тэрапеўт – 36500 рублёў Хірург – 43250 рублёў | Тэрапеўт – 37750 рублёў Хірург – 44600 рублёў | Тэрапеўт – 38650 рублёў Хірург – 46500 рублёў |
| Маладзечна | Тэрапеўт – 55200 рублёў Хірург – 59600 рублёў | Тэрапеўт – 57800 рублёў Хірург – 62300 рублёў | Тэрапеўт – 61900 рублёў Хірург – 66350 рублёў |
| Мядзел | 45400 рублёў | – | 59050 рублёў |
| Смаргонь | Тэрапеўт – 46510 рублёў Хірург – 46450 рублёў | Тэрапеўт – 49250 рублёў Хірург – 49450 рублёў | Тэрапеўт – 50300 рублёў Хірург – 50400 рублёў |

● НАВІНЫ

## Кіравацъ культурай будзе новы начальнік

**МЯДЗЕЛ.** На мінулым тыдні ў Мядзельскім райвыканкаме прызначылі новага начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі. Ім стала **Ірына Пазняк**.

Ёй 40 год. Мае дзве вышэйшыя адукацыі (скончыла педагагічны ўніверсітэт і ўніверсітэт культуры і мастацтваў).

Апошнім часам працавала дырэктарам дзіцячай школы мастацтваў у Дзяржынску.

## Сям'я з Вілейшчыны стала другой на "Уладары вёскі"

**ВІЛЕЙКА.** На Лагойшчыне 12 верасня прайшоў абласны этап сямейнага сельскагаспадарчага праекта "Уладар вёскі".

Аспрэчвалі званне найлепшай 17 сем'яў, якія спаборнічалі ў васьмі конкурсах.

Лепшыя вынікі з нашага рэгіёна – у сям'і з Вілейшчыны. Сям'я Бабушкіных з Крывога Сяла заняла на праекце другое месца. Прызавое месца заваяванае намаганнямі Валерыя і Таццяны, іх дзяцей Анатоля, Дар'і і Настассі.

## У Мядзеле пакажуць графічныя працы земляка

**МЯДЗЕЛ.** У музеі народнай славы 20 верасня адкрыецца выстава земляка, народнага мастака Беларусі **Васіля Шаранговіча**.

На ёй пакажуць 15 графічных прац з фонду музея.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



● НАВІНЫ

## Атрымалі падзякі за тушэнне машыны на запраўцы

**МЯДЗЕЛ.** Супрацоўнікі аўтазапраўкі ў Мядзеле дачакаліся ўзнагароды ад выратавальнікаў.

"РГ" пісала, што 30 снежня мінулага года на аўтазаправачнай станцыі №11 "Беларуснафты" загарэлася іншамарка. Яе хуценька патушылі аператар **Сяргей Трацэўскі** і майстар **Пётр Тачыцкі**.

Яны 15 верасня атрымалі падзякі абласнога ўпраўлення МНС. Уручыў іх начальнік Мядзельскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Каркоцкі**, паведамляе mchs.gov.by.

## Замежнік хацеў даць хабар мытніку

**МАЛАДЗЕЧНА.** Грамадзянін Германіі схіляў службовую асобу Маладзечанскага мытнага паста да атрымання незаконнага грашовага ўзнагароджання ў 210 еўра.

Такім чынам ён хацеў спрыяльна вырашыць пытанне аб датэрміновым вяртанні адабранага ў яго аўтамабіля, паведаміла "РГ" афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта Беларусі па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта распачаў крымінальную справу ў дачыненні да замежнага госця. Яго дзеянні кваліфікаваныя як замах на дачу хабару.

**Аддзел інфармацыі.**

## За інтэрнат аддалі махляру сем тысяч долараў

**МАЛАДЗЕЧНА.** Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта пачаў вытворчасць па крымінальнай справе ў дачыненні да мясцовага 37-гадовага жыхара. Яго падазраюць у махлярстве і падбухторванні да дачы хабару.

– Мужчына неаднаразова атрымліваў ад грамадзян грошы. Нібыта для наступнай іх перадачы ў якасці хабару службовай асобе, упаўнаважанай вырашаць пытанні засялення ў інтэрнат. Сума прысвоеных зламыснікам грашовых сродкаў склала каля 7200 долараў ЗША.

У цяперашні час следства ўстанаўлівае дадатковыя эпізоды супрацьпраўнай дзейнасці падазраванага. Мужчыну раней судзілі за аналагічнае злачынства.

**Таццяна БЕЛАНОГ, афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта Беларусі па Мінскай вобласці.**

● КОНКУРСЫ

# 16-гадовая кандытарка ўзяла Гран-пры

## Яе кампазіцыя перамагла на міжнародным конкурсе

**МАЛАДЗЕЧНА. Першае месца на конкурсе кандытараў "Урачыстасць стылю і густу", які прайшоў на выставе "Хлебная і кандытарская справа-2014" у Мінску, атрымала навучэнка з Маладзечна Кацярына Карпіновіч.**

Кацярыне 16 гадоў, яна вучыцца на другім курсе Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа. Прапанавала ёй паўдзельнічаць у выставе загадчыца аддзялення грамадскага харчавання **Святлана Сакольская.**

Святлана Альбертаўна, ведаючы, якая ў Кацярыны фантазія і вялізнае жаданне ствараць нешта новае, проста не магла дазволіць, каб у юбілейнай выставе яе таленавітая выхаванка была проста глядачкай.

Працу дзяўчыны назвалі "Калекцыя пачуццяў". Гэта маскі з пернікавага, заварнога, цёртага і венскага цеста, якія адлюстроўваюць чалавечыя эмоцыі. Тут і радасць, і смутак, і зайздрасць. Калекцыю пачуццяў дапоўнілі і шчырыя чалавечыя пачуцці, якія не схаваеш ні за адной маскай. У кампазіцыі з'явіўся капусны лісток, у якім ляжыць дзіцятка. Гэта шчасце. Затым дадалося і разбітае сэрца. Гэта боль ад неразздзеленага кахання.

Працу на конкурс Кацярына рыхтавала доўга. Спачатку эскізы з'явіліся на паперы. Аднак у цесце ніяк не атрымоўвалася зрабіць задуманае. Але спробы, парады кіраўніка і ўпартасць далі свой вынік.

– Самае цудоўнае ў рабоце кандытара, – жартуе Кацярына, – што няўдалыя спробы можна з'есці.

Усе працы на выставе былі цалкам прыдатныя для ежы. Але ці дазволіць сумленне адкусіць кусок ад торта ў выглядзе вясельнай сукенкі, які зроблены ў маштабе адзін да аднаго?

Кацярына прызнаецца, што гатаваць прысмакі для ўсёй сям'і даўно ўваходзіць у яе абавязкі.

– На кожнае свята імкнуся здзівіць сваіх дамашніх ці новым печывам, ці тортам. Пакуль атрымоўваецца. Мае кулінарныя шэдэўры знікаюць з талерак першымі.

Што датычыцца далейшага ўдзелу ў конкурсах, то яны абавязкова будуць. У Каці і яе кіраўніцы ўжо ёсць новая ідэя, але агучваць яны яе адмовіліся, каб канкурэнты не скарысталіся. Але што гэта будзе смачна і прыгожа – сумневаў няма.

**Наталля ТУР.**




Фота забяспечана Святланай САКОЛЬСКАЙ.

**Кацярына Карпіновіч з майстрам вытворчага навучання Валянцінай Лычовай. Дзякуючы перамозе ў конкурсе Каця цяпер зможа паехаць на стажыроўку ў Маскву.**

| Курсы валют НБ РБ | 11.09 руб. | 18.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 480,00 | **10 520,00** |
| Еўра | 13 550,00 | **13 630,00** |
| Злоты | 3 220,45 | **3 254,09** |
| Літ | 3 924,80 | **3 948,73** |
| Расійскі рубель | 282,00 | **274,00** |
| Грыўня | 812,40 | **765,09** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13450/13560 | **13590/13710** |
| Долар ЗША | 10450/10500 | **10500/10540** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 10.09 | 17.09 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 131400 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 50900 | **50900** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31900 | **31900** |
| Ялавічына (выразка), 1 кг | - | **110000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 29500 | **29500** |
| Селядзец, 1 кг | 32800 | **32800** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 99800 | **99900** |
| Рыс, 0,9 кг | 14200 | **13200** |
| Грэчка, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 13800 | **14300** |
| Маянэз, 200 г | 5650 | **5650** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 9800 | **9800** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 32000 | **32000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 9500 | **9500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6500 | **6500** |
| Капуста, 1 кг | 4500 | **4500** |
| Морква, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Буракі, 1 кг | 5000 | **4500** |
| Лімоны, 1 кг | 48000 | **47000** |
| Апельсіны, 1 кг | 17500 | **17500** |
| Мандарыны, 1 кг | 27500 | **27500** |
| Памідоры, 1 кг | 8900 | **8500** |
| Агуркі, 1 кг | 12500 | **12500** |
| Кавун, 1 кг | 4500 | **6700** |
| Дыня, 1 кг | 12000 | **12000** |
| Вінаград, 1 кг | 18500 | **18500** |
| Бананы, 1 кг | 13800 | **14500** |
| Яблыкі, 1 кг | 9500 | **9000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 21500 | **22000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Тварог, 1 кг | 50000 | **50000** |
| Бульба, 1 кг | 4800 | **4200** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |

Столькі ў 2013 годзе ў Беларусі было выкідаў забруджвальных рэчываў у паветра ад стацыянарных крыніц. У параўнанні з 2012 годам ён павялічыўся на 3%

**445 тысяч тон**

ЛІЧБА НУМАРА

● СПАЖЫВЕЦ

# Тысячу тон яблыкаў нарыхтавалі кааператары

**МАЛАДЗЕЧНА. Працоўны дзень у нарыхтоўшчыкаў Маладзечанскага райспажыўтаварыства пачынаецца а пятай гадзіне раніцы. Штодзень у вёскі выязджае каля дзясятка грузавікоў, каб прыняць яблыкі ў насельніцтва.**

Самымі багатымі на ўраджай яблыкаў сёлета сталі вёскі Краснае, Груздава, Дзікшняны.

Як распавяла першы намеснік старшыні райспажыўтаварыства **Галіна Далінкевіч**:

– Цяпер гаспадары, які жадаюць здаць дзяржаве лішкі сваіх яблыкаў, тэлефануюць за некалькі дзён, каб запісацца ў чаргу.

**Кілаграм ападу каштуе 500 рублёў. Разлік з насельніцтвам ідзе на месяцы.**

Куды ж ідуць яблыкі, якія райспажыўтаварыства набывае ў насельніцтва?

– Сёлета арганізаваць збыт яблыкаў нам было цяжка, гаворыць **Галіна Далінкевіч**, – таму што Маліноўшчынскі спіртзавод, адзін з нашых галоўных партнёраў, сёлета не прымаў ад нас ні яблыкаў, ні ягад. Яны цяпер пераарыентоўваюць сваю вытворчасць.

Але райспажыўтаварыства працягвае супрацоўнічаць з шэрагам перапрацоўчых прадпрыемстваў. Сёлета дамовіліся пастаўляць яблыкі на Ілаўскі харчовы камбінат, што на Мядзельшчыне.

**На рынку райспажыўтаварыства працуюць два пункты па прыёме плодаагароднінnай прадукцыі.**

Калі раптам вы не хочаце здаваць яблыкі, а іх у вас шмат, можаце скарыстацца прамысловай сокавыцiскалкай, якая працуе тут жа, на рынку райспажыўтаварыства, дзе за невялікія грошы можна націснуць сабе карыснага і смачнага яблычнага соку.

**Наталля ТУР.**



Звесткі па Маладзечанскім раёне.
Паводле Маладзечанскага райаддзела міліцыі.

Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ і Галіны СІНІЦЫ.

● МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Злачынстваў з дзецьмі пабольшала ўдвая

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета ў Маладзечне было 19 злачынстваў з удзелам непаўналетніх. За аналагічны перыяд мінулага года – восем.**

– Быў выпадак з распаўсюджваннем наркотыкаў, – адзначае **Сяргей Шытыка**. – Такога не было ўжо дзесяць гадоў.

### Пасля штрафу прадавачкі зноў прадаюць спіртное

Супрацоўнікі міліцыі 4-8 верасня праводзілі аперацыю "Падлетак" на тэрыторыі раёна. Яна ахапіла месца жыхарства непаўналетніх, якія стаяць на ўліку, і месцы масавага адпачынку моладзі. Былі рэйды па гандлёвых пунктах. Там высвятлялі факты продажу спіртнога.

Яны знойдзеныя ў 17 гандлёвых пунктах.

– У жніўні мы склалі пратакол на прадавачку адной з закусачных Маладзечна, – тлумачыць начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх. – Далі штраф. У верасні яе затрымалі паўторна. Цяпер склалі пратакол на ўладальніка закусачнай. Яму пагражае штраф да 30 базавых велічынь.

На 59 асоб склалі пратаколы за тое, што куплялі спіртное ці распівалі яго з падлеткамі. Міліцыянеры падрыхтавалі 17 спраў на пазбаўленне бацькоўскіх правоў. 115 бацькоў прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці.

**Галіна СІНІЦА.**

| Злачынства | Пакаранне |
|---|---|
| Продаж спіртнога непаўналетнім | 20-50 базавых велічынь |
| Куплянне спіртнога непаўналетнімі, распіванне яго | 10-20 базавых велічынь |
| Ужыванне алкаголю непаўналетнімі | Папярэджанне ці штраф 8 базавых велічынь, ставяць на ўлік |

## У Маладзечне злавілі дынастыю самагоншчыкаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Яны ўжо трэці раз пападаюцца міліцыі.**

Пачаў гэту справу бацька, якому цяпер 50 гадоў. Яе працягнулі два сыны: аднаму 30 гадоў, другому – 26. Ніхто з іх нідзе не працаваў. Зараблялі на жыццё мужчыны вырабам самагонкі.

Сёлета ў жніўні 30-гадовага самагоншчыка злавілі. Ён гнаў самагонку ў вёсцы Схоліна. Падчас агляду міліцыя выявіла самагонны апарат і восем з паловай тысяч літраў брагі.

### Знайшлі два катлаваны адходаў самагонкі

У ліпені міліцыя злавіла 26-гадовага самагоншчыка з вядомай нам дынастыі.

На хутары каля вёскі Клапачы яго затрымалі разам з 21-гадовым сябрам, калі яны гналі самагонку. У доме не было вады і святла – мужчыны прывезлі з сабой электрагенератар. Ваду бралі з сажалкі.

У час агляду міліцыя знайшла самагонны апарат і 16 тон брагі. А яшчэ два катлаваны для адходаў самагонкі. Аб'ём аднаго каля 20 тон, другога – да 10 тон. Апошні ўжо не выкарыстоўваецца.

### Самагонку гналі ў гаражы

30-гадовага самагоншчыка з гэтай дынастыі міліцыя затрымлівала і ў чэрвені. Ён вырабляў самагонку разам з 29-гадовым і 31-гадовым сябрамі.

Гналі яе ў гаражы недабудаванага катэджа. Падчас праверкі міліцыя знайшла самагонны апарат, восем з паловай тон брагі і 280 літраў самагонкі.

### Пры затрыманні пабілі міліцыянераў

У 2009 годзе, калі супрацоўнікі міліцыі затрымлівалі самагоншчыкаў, тыя супраціўляліся. Пабілі міліцыянераў кулакамі і драўлянай палкай. За гэта іх у 2010 годзе асудзілі.

Аб гэтым паведаміў **Яўген Беркутаў**, начальнік штаба РАУС.

**Галіна СІНІЦА.**



● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## П'яны кіроўца ўрэзаўся ў плот: загінула маладая жанчына

**ВІЛЕЙКА. Трагедыя на дарозе адбылася 9 верасня пасля гадзіны дня ў вёсцы Малявічы Хаценчыцкага сельсавета.**

27-гадовы жыхар Лагойскага раёна не справіўся з кіраваннем аўтамабіля "Фіят". Выехаў на паласу сустрэчнага руху, а пасля гэтага – за межы праезнай часткі. Аўтамашына ўрэзалася ў плот і перакулілася.

У выніку 27-гадовая пасажырка памерла ад атрыманых ран на месцы здарэння. Кіроўца і яшчэ адна пасажырка шпіталізаваныя з траўмамі.

Мужчына кіраваў машынай у стане алкагольнага ап'янення без вадзіцельскага пасведчання.

**Паводле ДАІ.**

● СЛУЖБА 101

## Згарэў дом у Скавародках

**МАЛАДЗЕЧНА. Выратавальнікі не выключаюць, што прычынай пажару мог быць падпал.**

Пажар адбыўся ўвечары 14 верасня. У цэнтр аператыўнага кіравання паступіла паведамленне аб загаранні жылога дома ў вёсцы Скавародкі Маркаўскага сельсавета. Калі выратавальнікі прыехалі на месца, яны заўважылі, што з жылога дома ідзе дым.

У выніку пажару агнём была пашкоджаная мэбля, закураныя сцены ў пакоі драўлянага дома, які выкарыстоўваецца пад дачу. Пацярпелых няма.

– Ад пачатку года ў раёне гэта ўжо 47 пажар, – паведаміла "Рэгіянальнай газеце" інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС **Ксенія Таратута**. – Загінулі ж на пажарах сёлета сем чалавек.

**Наталля ТУР.**

● СЛУЖБЫ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ

## 101-гадовая жанчына трапіла пад цягнік

**ВАЛОЖЫН. На станцыі "Беларусь" цягнік Полацк-Мінск насмерць збіў 101-гадовую жанчыну, жыхарку Валожынскага раёна.**

Яна хацела перайсці пуці па пешаходным насціле перад цягніком.

Пра здарэнне паведамілі ў прэс-службе МУС.

**Паводле "Нашай нівы".**

● СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Шукаюць хлопцаў, якія пабілі людзей у цягніку "Мінск-Маладзечна"

**МАЛАДЗЕЧНА. Апоўдні ў суботу, 2 жніўня, маладыя людзі ў вагоне 2 пабілі трох чалавек.**

Агрэсараў было сямёра, спартыўнага целаскладу. На выгляд ім 20-22 гады. Чацвёра з іх ростам 180-185 сантыметраў, двое 170-175 сантыметраў. Усе – у шортах, з майкамі, павязанымі на галовах.

Адзін быў сярэдняга целаскладу, ростам каля 175-180 сантыметраў. На ім была чорная байка з малюнкам на грудзях.

У аднаго хлопца на лытцы правай нагі была татуіроўка – чырвоная ружа.

Следчы камітэт шукае сведкаў і відавочцаў здарэння.

**Паводле інфармацыі Маладзечанскага раённага аддзела Следчага камітэта.**

● ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

## У верасні на чыгунцы – аперацыя "Бяспека"

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 23 да 27 верасня пройдзе спецыяльная аперацыя на чыгунцы "Бяспека".**

Асаблівую ўвагу работнікі транспартнай міліцыі звернуць на правілы пераходу пуцей.

Сёлета ў аддзяленні ўнутраных спраў на транспарце зарэгістравана шэсць выпадкаў траўмавання грамадзян. Тры з іх са смяротным зыходам. Асоба аднаго з загінулых не высветленая. Усе пацярпелыя былі п'яныя.

**Паводле інфармацыі транспартнай міліцыі Маладзечна.**

КУЛЬТУРА

# Валеры Апарык: "Галоўныя мае крытыкі – дзеці"

**ВІЛЕЙКА. У пачатку верасня парк у Вілейцы ўпрыгожыла яшчэ адна скульптура Валерыя Апарыка. Яна зробленая на сюжэт беларускай казкі "Сава і дзяцел".**

Творца адзначае, што ў беларусаў шмат казак пра жывёл. Аднак ён хацеў знайсці самабытны сюжэт, які б не пераклікаўся з казкамі іншых народаў.

– Казка "Сава і дзяцел" філасофская і павучальная, – адзначае скульптар. – Калі сава спіць, дзяцел працуе. Калі дзяцел спіць, то сава перашкаджае яму. У вобразе гэтых птушак чалавек можа ўбачыць свае паводзіны. Мараль казкі – стаўся да людзей так, як ты хочаш, каб яны ставіліся да цябе.

### Без дэталяў скульптура будзе нецікавай

У скульптуры ёсць не толькі выява савы і дзятла. Усе астатнія элементы – пень, кніга, грыбы – антураж. Але без дэталяў кампазіцыя выглядала б нецікава, мяркуе творца. Толькі аб'яднаўшы элементы, можна атрымаць сапраўдную скульптуру.

Працаваў над новай работай Валеры Апарык больш за два месяцы.

### Ад ранейшых скульптур няма і фотаздымкаў

Цяпер у Вілейцы восем скульптур творцы: Дворнік, Вожык, Лесавік, фрагмент з казкі "Рэпка", яблык з чарвячком, груша, карзіна з кветкамі.

Свае работы скульптар робіць з армiраванага бетону на жалезных падпорках.

– Гэта даўгавечны матэрыял, – тлумачыць Валеры Апарык. – Раней у Вілейцы скульптуры рабілі з дрэва. Думалі, што яны будуць даўгавечныя. Аднак час знішчыў іх. Сёння не засталося ніводнай, нават няма фотаздымкаў. Гэтыя скульптуры былі на казачную, бытавую тэмы.

Мастак-скульптар адзначае, што тэматыку работ ён абмяркоўвае з дырэктарам вілейскай ЖКГ **Віктарам Паўлоўскім**.

– Віктар Іосіфавіч вельмі творчы чалавек, – адзначае Валерый Апарык. – Яму не ўсё роўна, як выглядае наш горад. Кожную скульптуру ён нібы прапускае праз сябе, асэнсоўвае значэнне кожнай з іх.

Перш чым пачаць працу над скульптурай, аўтар робіць эскізы. Потым абмяркоўвае іх з галоўным архітэктарам горада **Галінай Кажарновіч**. Тая раіць, дзе лепш размясціць работу, што выправіць.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**Новая работа вілейскага скульптара Валерыя Апарыка на сюжэт беларускай казкі "Сава і дзяцел". Паглядзець яе можна ў вілейскім парку.**

### "Я не імкнуся ўсім спадабацца"

Валеры Апарык адзначае, што ў Вілейцы шмат людзей, якім падабаюцца яго працы. Аднак ёсць і тыя, хто крытыкуе творцу.

– Да крытыкі я стаўлюся спакойна, – адзначае творца. – Я не імкнуся ўсім спадабацца. Ды гэта і немагчыма. Галоўныя крытыкі, да якіх я прыслухоўваюся, – гэта вілейскія дзеці. Ім казачная тэматыка больш блізкая. Яны адразу бачаць, што не адпавядае сюжэту казкі.

### Позна заняўся скульптурай

Пакуль Валеры Апарык не хоча раскрываць свае творчыя задумы. Прытрымліваецца той думкі, што гаварыць можна толькі пра тое, што ўжо існуе.

– Буду працаваць над скульптурамі з казачнай тэматыкай, – прызнаецца ён. – Мяркую, што яны будуць размяшчацца ў парку. Там гуляе шмат дзяцей. Ім цікава знайсці сваіх любімых казачных персанажаў.

Лічыць творца, што позна пачаў займацца скульптурай.

– Калі б гэта было ў 30 гадоў, – гаворыць Валеры, – можна б было дасягнуць больш значных вяршынь.

### Вырас у сям'і будаўнікоў

Нарадзіўся Валеры Апарык на Украіне. Бацькі яго былі будаўнікамі. Бацька, **Мікалай Апарык**, рабіў падлогі з мазаікі, быў добрым цесляром, маляром. Таксама маляваў, рабіў упрыгожванні з дрэва.

Маці, **Ганна Апарык**, была тынкоўшчыцай. У вольны час вышывала. Як лічыць Валеры, ён многае пераняў ад бацькі.

З дзяцінства хлопчык маляваў. Спачатку вучыў бацька, пасля вучыўся ў школе. Наведваў творчыя гурткі, напрыклад, разьбы па дрэве. Закончыў камбінат па класе разьбы. Затым вучыўся ў мастацкім вучылішчы на мастака-дызайнера. Атрымаў спецыяльнасць будаўніка.



Фота google.by.

**Валеры Апарык, скульптар.**

### "Разьба па дрэве – мужчынская спецыяльнасць"

Валеры Апарык працаваў майстрам вытворчага навучання ў былым 48 вучылішчы (цяпер Вілейскі прафесійна-тэхнічны каледж). У 1991-1994 гадах выпусціў групу рэзчыкаў па дрэве. Большасць з яго вучняў атрымалі прафесійную адукацыю, аднак працуюць па спецыяльнасцях, якія даюць капейку. Рэзчыкам працуе толькі адна з яго вучаніц **Ірына Пермякова**.

– Гэта дзяўчынка вельмі настойлівая, – падкрэслівае Валеры Апарык. – Яе работы выстаўляліся ў вілейскім музеі. Аднак усё ж такі разьба па дрэве гэта больш мужчынская спецыяльнасць. Тут трэба прыкласці сілу.

Сёння мастак-скульптар працуе ў Вілейскай ЖКГ.



**Галіна СІНІЦА.**
E-mail: 8793850@gmail.com
Skype: sinica-galina92

НАМ ПІШУЦЬ

## Інтэрнат у Смаргоні затоплены

**СМАРГОНЬ. Нават калі пачысцілі прарваную каналізацыю, жыхары пакутуюць ад смуроду.**

У рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты" звярнуўся **Эдуард** са Смаргоні. Ён скардзіцца на тое, што ў інтэрнаце па вуліцы Маладзёжнай падвал затоплены змесцівам прарванай каналізацыі.

Паводле яго слоў, такая сітуацыя паўтараецца пастаянна. Мужчына звяртаўся да спецыялістаў, якія патлумачылі, у чым праблема. Ён незадаволены, што супрацоўнікі ЖКГ ведаюць прычыну, але не выпраўляюць становішча.

Шмат разоў ён тэлефанаваў у Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. Машына адпампавала вадкасць. Аднак побач з падвалам знаходзіцца проста немагчыма з-за смуроду.

Сітуацыю патлумачыла **Алена Атцецкая**, начальніца жыллёва-камунальнага аддзела ЖКГ:

– У пятніцу я выязджала ў гэты інтэрнат. Сапраўды, падвал падтоплены. Аварыйная служба адпампавала ваду. Цяпер трэба пачакаць, каб падсохла. Тады можна будзе рамантаваць падвал, каб яго больш не затапляла.

**Галіна СІНІЦА.**

АФІЦЫЙНА

## Уступіла ў сілу новая пастанова вядзення грашовых аперацый

**МАЛАДЗЕЧНА. Паменшаны памер разлікаў наяўнымі грашамі. Іх можна атрымаць па заяве. Грошы на камандзіроўкі можа атрымаць адзін работнік.**

Ад 1 верасня ўступіла ў сілу пастанова Упраўлення Нацыянальнага банка Беларусі ад 31 сакавіка №199 "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у інструкцыю аб парадку вядзення касавых аперацый і парадку разлікаў наяўнымі грашовымі сродкамі ў беларускіх рублях на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь".

Згодна з ёй:

– Паменшаны гранічны памер разлікаў наяўнымі грашамі да 100 базавых велічынь паміж юрыдычнымі асобамі, іх падраздзяленнямі, індывідуальнымі прадпрымальнікамі на працягу аднаго дня. Раней ён складаў 300 базавых велічынь.

– Дапускаецца пералічэнне грошай работніку на карпаратыўную (асабістую) дэбетавую картку для аплаты расходаў, звязаных са службовымі камандзіроўкамі. Справаздачы па раней пералічаных грашовых сродках на рахунак кліента можа і не быць.

– Атрымліваць наяўныя грошы са сваіх бягучых рахункаў можна па заяве.

– Пры накіраванні некалькіх работнікаў у адну камандзіроўку дазваляецца пералічваць грошы на карпаратыўную (асабістую) дэбетавую картку пад справаздачу аднаго камандзіраванага.

– Арганізацыі не трэба весці касавую кнігу, калі наяўныя грошы не паступаюць у касу і не выдаюцца з касы арганізацыі.

**Паводле інфармацыі інспекцыі МНС РБ па Маладзечанскім раёне.**

● АНОНСЫ

# Сядзібу ў Залессі адкрые аркестр Міхаіла Фінберга

**СМАРГОНЬ. Урачыстае адкрыццё пройдзе 25 верасня, у дзень нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага.**

Галоўным мерапрыемствам дня стане канцэрт камернай музыкі "Вяртанне Паўночных Афін", які пачнецца а 17 гадзіне ва ўнутраным двары сядзібы.

– Уваход на канцэрт будзе па запрашэннях, але ўсе ахвотныя змогуць паслухаць яго, стоячы на ўзвышшы ля альтанкі Амеліі – адтуль нават відаць будзе лепей, – кажа **Тацццяна Ражава**, намесніца загадчыка аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Смаргонскага райвыканкама.

У той жа дзень у палацы пачне працаваць выстава "Паланэзы на вяртанне". На ёй можна будзе паглядзець дакументы з архіва Агінскага, якія атрымалася вярнуць у Беларусь. Ладзіць выставу дапамагае дырэктар музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры **Зінаіда Кучар**. Дагэтуль выстава пабывала ў Гомелі і Варшаве.

Цягам дня ўсе ахвотныя змогуць паўдзельнічаць у экскурсіі па маёнтку.

– Колькі я працую, заўсёды на дзень нараджэння Агінскага было добрае надвор'е, – дадае Тацццяна Ражава. – Спадзяюся, гэта традыцыя захаваецца. Канцэртная зала ў маёнтку разлічаная толькі на 80 месцаў, таму канцэрт вырашылі праводзіць на вуліцы. Залессе ўжо зачакалася адкрыцця, таму чакаем шмат гасцей.

Калі пойдзе дождж, аркестр усё роўна будзе іграць – сцэна ў двары крытая. А вось гледачам трэба будзе паклапаціцца пра сябе самім.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## У Палацы культуры пройдзе форум "Час жыць!"

**МАЛАДЗЕЧНА. 25 верасня, у чацвер, пройдзе моладзевы творчы форум "Час жыць!".**

Правядзе мерапрыемства "Палац культуры" сумесна з моладзевым клубам зносінаў і творчасці "Дыялог+".

У ім могуць паўдзельнічаць моладзь людзі ад 15 да 30 гадоў. Тэматыка мерапрыемства – ключавыя пытанні жыцця чалавека і грамадства (дабро і зло, жыццё і смерць, каханне, сям'я, сумленне).

Рознымі сродкамі – словамі, гукамі, фарбамі, пластыкай, учынкамі – удзельнікі змогуць расказаць пра сябе, пра сваё разуменне жыцця.

Мерапрыемства накіраванае на творчасць, валанцёрства, практычную псіхалогію.

Праект "Час жыць!" пачаў сваю дзейнасць у Маладзечне ў 2009 годзе. Мэта яго – жаданне дапамагчы людзям падчас жыццёвых крызісаў.

**Паводле інфармацыі Палаца культуры і моладзевага клуба зносінаў і творчасці "Дыялог+".**

## Казку на нямецкай мове паказалі ў бібліятэцы "Верасок"

**МАЛАДЗЕЧНА. 16 верасня, у аўторак, у бібліятэцы сямейнага чытання "Верасок" тэатр казкі з Германіі паказаў інсцэніроўку "Спячая прыгажуня" на нямецкай мове.**

Перад маладзечанцамі выступіла актрыса **Сімона Мучлер**. Школьнікі з розных школ горада разумелі нямецкую казку, смяяліся, адказвалі на пытанні.

Арганізатары зладзілі сустрэчу нямецкіх гасцей з маладзечанскімі школьнікамі для збліжэння культур і развіцця дзяцей.

Распавядае **Марына Міцькіна**, супрацоўніца інстытута імя Гётэ ў Мінску:

– Кантакт з аўдыторыяй заўсёды наладжваецца міжвольна. Спачатку дзеці баяцца, што нешта няправільна скажуць па-нямецку. Аднак пасля разумеюць, што, нягледзячы на памылкі, іх разумеюць.

І дзеці, і настаўнікі лічаць такія мерапрыемствы не толькі цікавымі, але і карыснымі. Размова з носьбітам замежнай мовы – найлепшы спосаб напрактыкавацца ў ёй.

**Галіна СІНІЦА.**



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Удзельнікі курсаў "Мова Нанова" ў Маладзечне абмяркоўваюць творчае заданне. Дарэчы, кожны, хто прыйшоў на першыя заняткі ў вышыванцы, атрымаў у прыз нататнік.

● АДУКАЦЫЯ

# У цемнаце, але ж не ў крыўдзе

## Мова Нанова адкрыла другі сезон

**МАЛАДЗЕЧНА. 15 верасня ў кавярні "Накат"пачаўся новы сезон модна-моўных курсаў "Мова Нанова".**

Таго, хто прыйшоў на першыя заняткі, чакалі творчыя заданні, беларускі слоўнік і выступленні музыкаў.

Першай тэмай сезона стала "Адукацыя". Скончыўся летні адпачынак, і нашы слухачы зноў селі за парты ў школе або паступілі ў ВНУ, або павялі ў школу сваіх дзетак ці занялі сваё працоўнае месца побач з дошкай, узяўшы на ўзбраенне ўказку, крэйду і журнал.

Калі параўнаць першыя заняткі з урокамі, то ў панядзелак нашых слухачоў чакаў урок літаратуры. Мы ўспаміналі беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, а таксама радкі з любімых вершаў.

Адбыўся ўрок замежнай мовы, на якім наша госця **Алеся Птушка** распавяла пра перавагі і недахопы адукацыі за мяжой, а таксама навучыла слухачоў галоўнаму прынцыпу сербаў – "опусцісе, нема вэзэ". Што значыць "расслабся, не замарочвайся".

На ўроку малявання нашым удзельнікам давялося паклікаць на дапамогу сваю фантазію і намаляваць тое, з чым у іх асацыюецца Беларусь.

Аказалася, для "мовананоўцаў" – гэта жыта, літара Ў, сцяг, бульба, дранікі, трактар, ручнік, двухпавярховы аўтобус МАЗ і нават ананасы.

Напрыканцы заняткаў, як і ў мінулым сезоне, прыемная музыка і цікавы госць. У нас у гасцях быў **Андрусь Такінданг**. Акрамя цудоўных песень, атрымалася і цудоўная размова.

Як прызнаўся сам Андрусь, на яго канцэртах рэдка бывае, каб "мы былі ўдваіх – я і людзі".

Мы ж, у сваю чаргу, абяцаем, што да наступнага панядзелка вырашым праблему са святлом, якога ў гэты раз так не хапала. Таксама маленькім слухачам мовы абяцаем, што на калыханку на гэты раз яны не спозняцца.

**Заняткі адбудуцца ў панядзелак, 22 верасня, а 19-й гадзіне ў кавярні "Накат" (ГЦ "Тройка").**

**Вядучыя "Мовы Нанова" Наталля ТУР і Настасся РОЎДА.**

● КОНКУРСЫ

## Спадчына Вілейшчыны з'явілася на паштоўках

**ВІЛЕЙКА. 17 верасня на сядзібе суполкі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры адкрылася фотавыстава па выніках конкурсу "Спадчына Вілейшчыны".**

Арганізатар – мясцовая суполка таварыства і краязнаўчае выданне "Волат". На выставе – 10 лепшых прац. З выявамі гэтых здымкаў ужо надрукавалі паштоўкі.

Працаваць выстава будзе каля двух тыдняў, распавёў кіраўнік вілейскай суполкі таварыства **Дзяніс Канецкі.**

Калі ў іншых установах захочуць паказаць гэту выставу, можна звярнуцца па электронным адрасе vilejka.tap@gmail.com ці па нумары (8029) **873-72-95**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Міхаіла КУЛІШЫ

На адной з прац пераможцаў конкурсу – маёнтак Багдановічаў у вёсцы Старынкі.



Фота забяспечана Кацярынай ПЛЕШКЕВІЧ.

На фестывалі "Тралей" на Нарачанцы заўсёды можна паказытаць нервы і атрымаць зарад яркіх эмоцый.

● АКТЫЎНЫ АДПАЧЫНАК

# Праляцець над Нарачанкай і скокнуць з дрэва

**ВІЛЕЙКА. Гэтыя і іншыя экстрэмальныя забавы прапаноўвалі на шостым моладзевым фестывалі "Тралей-2014". Прайшоў ён 6 і 7 верасня ля вёскі Асінаўка Вілейскага раёна.**

Ля рэчкі Нарачанка фестываль адбываўся трэці год. Калісьці адшукалі падыходзячае месца арганізатары проста: выбралі па карце.

– І ўжо тры гады праводзім фестываль на адным і тым жа месцы, – кажа яго арганізатар **Дзмітры Радаман**. – Яно вельмі ўдалае, дазваляе ўсё неабходнае рабіць. Ёсць перапад вышынь і патрэбная адлегласць для таго, каб нацягнуць тролей.

### Тралей – галоўная прынада фестывалю

Уздоўж Нарачанкі наўскасяк з аднаго берага на другі нацягнулі доўгую – амаль 250 метраў – вяроўку. Па ёй з дапамогай адмысловага рыштунку на хуткасці спускаліся ахвотныя. Гэта і ёсць тралей.

Для аматараў экстрэмальных забаў яшчэ быў роўпджампінг. Трэба было залезці на пляцоўку на высокім дрэве і скокнуць адтуль з вяроўкай.

Маглі ўдзельнікі фестывалю паспрабаваць сябе ў ролі канатаходцаў: прайсціся над зямлёй па страпе (так названы "слэйклайн"). А самыя дасведчаныя і над рэчкай праходзілі.

### Заняцца было чым і дарослым, і дзецям, і сабакам

Апроч экстрэмальных забаў удосталь было і іншых. Цікавымі атрымаліся спаборніцтвы па арыентаванні. Для яго сябры Мінскага ровarнага таварыства знайшлі ў акрузе адметныя мясціны. Праводзілі на фестывалі майстар-класы па танцах, ёзе, капаэйры... І канцэрт наладзілі.

Адмысловая пляцоўка працавала для дзяцей. Нават для сабак забавы прыгатавалі: вучылі іх гуляць у фрысбі (лятаючы дыск).

– Фестываль з кожным годам набірае публіку і абароты, – кажа Дзмітры Радаман. – Збольшага людзі прыязджаюць сюды не першы раз. Ужо сем'і стварыліся з тых, хто пазнаёміўся на фестывалі. Так што сёлета ён атрымаўся больш дружалюбным, згуртаваным і душэўным.

Апроч беларусаў, сёлета ў фестывалі ўдзельнічалі госці з Расіі, Украіны, Германіі.

**– А мясцовыя людзі ці падыходзілі?**

– Усе тры гады прыходзяць, спрабуюць, катаюцца. Сёлета былі паўнацэннымі удзельнікамі – выступалі ў арыентаванні.

І пра ўражанні. Хтосьці дзякаваў арганізатарам за тое, што на фестывалі далі магчымасць пераступіць праз свае страхі. Камусьці "асабліва спадабалася тое, што фестываль сапраўды быў сямейным – усім было чым заняцца (і дарослым, і дзецям, і нават сабакам)". Некаму запомніўся "батут ноччу ў лесе пад зоркамі". А дзевяцігадовая Каця сваё захапленне ад фестывалю нават у школьным сачыненні распісала.

### Грошы і рэчы пойдуць у прытулак

Усе шэсць год фестываль мае дабрачынны накірунак. Выручаныя за білеты грошы аддадуць у Пухавіцкі дзіцячы прытулак. Таксама туды адвязуць рэчы і канцылярскія прылады, якія ўдзельнікі прывозілі з сабой.

А ці будзе фестываль на гэтым месцы налета, яшчэ невядома. Арганізатары будуць вызначацца. Якім бы ні было зручнае месца ля Нарачанкі, хочацца і іншыя апрабаваць.

**Даведка "РГ". Роўпджампінг** – экстрэмальны від спорту. Скачок з вяроўкай з высокага аб'екта пры дапамозе складанай сістэмы амартызацыі з альпінісцкіх вяровак і рыштунку. **Капаэйра** – бразільскае нацыянальнае баявое мастацтва, якое спалучае ў сабе элементы танца, акрабатыкі, гульні.



Алесь ВЫСОЦКІ.
E-mail:
alvy@tut.by

● ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Голым забраўся ў чужую кватэру і залез у ваду

**МАЛАДЗЕЧНА. Такі выпадак здарыўся летась з маладзечанцам. Мужчына з прыяцелямі ўжыў спайс, пасля чаго страціў над сабой кантроль.**

– Зусім голы, ён разбіў спачатку чужую машыну, каб сагрэцца, а калі гэта не дапамагло, разбіў у чужой кватэры балконныя шыбы, залез у кватэру і адразу накіраваўся ў ванну, уключыў гарачую ваду і сеў у яе, – кажа **Сяргей Шытыка**, начальнік інспекцыі па справах непаўнагалетніх Маладзечанскага РАУС. – Гаспадыня кватэры выклікала міліцыю. Калі мужчына адышоў ад спайсу, ён сказаў, што курыў цыгарэту, а пасля нічога не памятае.

– Раней курыльныя сумесі былі вельмі дарагія. Яны найбольш распаўсюджваліся ў Салігорску.

Паступова спайсы прыйшлі і ў наш рэгіён. Як вядома міліцыі, іх пачалі распаўсюджваць у Маладзечне ад 2011 года. І штогод усё больш.

– Цяпер спайс стаў дастаткова танным наркотыкам, – тлумачыць міліцыянер. – За 100 грамаў людзі плацяць каля 800 тысяч рублёў. Кошт павялічваецца, калі яго перапрадае шмат людзей, кожны дадае сваю суму, якую забірае сабе.

### Распаўсюджваюць наркотык праз інтэрнэт

Найчасцей пакупнік і прадавец знаходзяць адзін аднаго праз інтэрнэт. Звычайна прадавец спайсу і пакупнік не ведаюць адзін аднаго і не перасякаюцца. Грошы з інтэрнэт-кашалька пераводзяцца на іншы рахунак, а сам тавар знаходзіцца ў такім месцы, пра якое ведаюць толькі двое.

Спайс забаронены. Яго вытворцы часта мяняюць хімічную формулу. Таму асабліва складана прадугледзець, наколькі непапраўныя наступствы будзе мець арганізм з-за гэтага рэчыва.

**У Маладзечанскім раёне ў 2013 годзе зарэгістравана 29 выпадкаў незаконнага абароту наркотыкаў без мэты збыту, з мэтай збыту – 12. На 2014 год гэтыя лічбы выраслі – 35 і 16 выпадкаў адпаведна.**

### Кураць спайс перад заняткамі

– Неяк мы зайшлі ў адзін з каледжаў Маладзечна, – расказвае Сяргей Шытыка. – На занятках некалькі хлопцаў сядзелі нерухома, нават вачыма не міргалі. Адразу бачна, што яны пад спайсам. Павезлі іх у псіханеўралагічны дыспансер, дзе спецыялісты ўзялі аналіз крыві і мачы, адправілі ўзоры ў лабараторыю. Па аналізах – усе чыста. У гэтым уся праблема. Па аналізах немагчыма вызначыць, ужываў чалавек гэты наркотык ці не, а толькі па паводзінах. Спачатку людзі паводзяць сябе спакойна, як анёлачкі, а потым становяцца неадэкватнымі.

Праз адну-дзве гадзіны наркатычнае ап'яненне праходзіць.

Цяпер міліцыя праводзіць акцыю "Стоп-спайс". Супрацоўнікі чытаюць інфармацыйна-прафілактычныя лекцыі ў школах і каледжах, ездзяць у рэйды па забаўляльных клубах. У такіх установах яны адчуваюць пах спайсу, але вызначыць, хто курыў, не проста.

### Штомесяц ад передазіроўкі ў рэанімацыю трапляе 1-2 чалавекі

Начальнік аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі **Дзмітры Сухоцкі** расказвае, што найчасцей спайсы распаўсюджваюць людзі ад 16 да 23 гадоў.

Сёлета аднаго са збытчыкаў курыльных сумесяў з Маладзечанскага раёна асудзілі на 10 гадоў.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**








ВОЛЬНЫ ЧАС

# “Клуб для нас – сонечны праменьчык”

**ВІЛЕЙКА. Гэтымі словамі пачала размову Данута Лубнеўская – удзельніца вілейскага клуба “Пераадоленне” для людзей, якія слаба бачаць, і інвалідаў па зроку.**

– Самі разумееце, што людзі з абмежаванымі магчымасцямі маюць патрэбу ў кантактаванні. Бо ў асноўным мы запёртыя ў чатырох сценах, – працягнула яна. – Вельмі добра, што для нас стварылі клуб. Ён як аддушына. Мы можам сабрацца, выказацца. Не баімся, што на нас не так паглядзяць, калі, раптам, мы чай разлілі.

### Удзельнікі клуба падаюць ідэі самі

Клуб запрацаваў у сакавіку гэтага года пры Вілейскім тэрытарыяльным цэнтры абслугоўвання насельніцтва.

Год шэсць таму існавала група самадапамогі. Там збіраліся інваліды па зроку, з імі праводзілі заняткі. А сёлета старшыня раённай арганізацыі інвалідаў па зроку **Ганна Філістовіч** прапанавала аднавіць гэту працу.

– Пагаварылі, падумалі, што група самадапамогі – гэта мала, – прыгадала псіхолаг аддзялення сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі цэнтра **Ірэна Рэут**. – Вырашылі стварыць клуб, каб прыцягнуць больш людзей.

Патэлефанавалі сябрам арганізацыі, правялі сход, расказалі пра клуб. Цяпер у ім дзевяць пастаянных удзельнікаў.

**Збіраюцца раз на месяц. Звычайна – у кожны другі чацвер месяца, у 14:30, па вуліцы Маркава, 49 (тэлефон 8-01771 5-45-31).**

Абавязковы рытуал – чаяванне. Далей ідуць заняткі, трэнінгавыя практыкаванні.

– Удзельнікам напачатку было вельмі цяжка гаварыць: перажывалі, саромеліся, – кажа Ірына Рэут. – А цяпер бойка адказваюць. І гэта настолькі цікавыя людзі! Яны актыўна прымаюць удзел у выбары тэм. Самі ідэі падказваюць. Напрыклад, прапанавалі наведаць мемарыял зніклых вёсак ля Вілейкі.

### Ухіл – на літаратуру

Цяпер клуб усё больш набывае літаратурны ўхіл. На першых заняткках-знаёмстве аказалася, што ў многіх хобі – літаратура. Нехта яшчэ сам можа чытаць, хтосьці нават вершы піша.

На адным з пасяджэнняў знаёміліся з кнігай “Яшчэ не позна...”, дзе сабраныя вершы пажылых вілейчан. Дзяліліся тым, што ведаюць пра паэтаў Вілейшчыны.

Быў літаратурны вечар, дзе кожны расказваў пра любімы твор. **Уладзімір Кажушка** чытаў вершы **Гаўрыла Шуценкі**. Ён неяк слухаў запісы, і яму спадабаліся вершы гэтага паэта. Даведаўся, што і той страціў зрок. Па запісах вывучыў вершы і пазнаёміў іншых з радкамі, што чапляюць за душу.

Расказвалі ўдзельнікі пра любімыя мясціны роднага горада. Паколькі некаторыя прыехалі ў Вілейку з іншых гарадоў, атрымалася і пазнавальна.

### “Галоўнае ў нашым клубе – кантактаванне”

У гэтым пераконвае Ганна Філістовіч.

– Збіраюцца людзі з аднолькавымі праблемамі – таму адчуваем сябе ў гэтай кампаніі лёгка, – тлумачыць яна. – Людзі прыходзяць – колішнія настаўнікі, журналіст, медработнік, бібліятэкар. Дзелімся сваімі праблемамі, даведваемся нешта новае.

**– Людзі збіраюцца цікавыя, – пацвярджае Данута Лубнеўская. – Са сваім жыццёвым досведам, сваім спосабам, як пераадолець абмежаванасць.**

Данута Лубнеўская і патэлефанавала ў рэдакцыю, каб напісалі пра клуб. Дзеля таго, каб іншыя людзі з абмежаванымі магчымасцямі даведаліся пра яго і завіталі на пасяджэнні. Упэўнівае жанчына, што час у клубе наведнікі праводзяць з карысцю.

А ўдзельнікам цікава будзе пазнаёміцца з новымі людзьмі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота wikihow.com.

**Людзям з праблемамі са зрокам вельмі неабходныя сяброўскія сустрэчы і ўвага.**

ЗДАРОЎЕ

## Што трэба ведаць аматару грыбоў

**Санэпідслужба раіць не купляць грыбы, ягады і іншыя дары прыроды ў несанкцыянаваных месцах гандлю. Так вы рызыкуеце набыць прадукт, забруджаны радыенуклідамі.**

Радыеактыўныя элементы найбольш накопліваюцца ў польскіх грыбах, масляках, махавіках, курачках, рыжыках, падгруздках чорных. Найменш – у вешанках, шампіньёнах, радоўках, апеньках.

**Мы рэкамендуем правяраць лясныя дары ў адпаведнай лабараторыі. Яны ёсць на рынках, а таксама ў Маладзечанскім занальным цэнтры гігіены і эпідэміялогіі па адрасе: вуліца Чкалава, 2-а.**

Для даследавання прынясіце адзін літр патрэбнай прадукцыі. Пробу пасля вярнуць.

Калі купляеце грыбы на рынку райспажыўтаварыства, абавязкова праверце іх на ўтрыманне цэзію ў лабараторыі ветэрынарна-санітарнай экспертызы, што месціцца таксама на рынку.

Небяспечна купляць дзікарослую прадукцыю па-за рынкамі, каля дарог і ў іншых недазволеных месцах.

### Грыбы з цэзіем былі ў Даманове

Пры зборы грыбоў трымайцеся правілаў:

- каб пазбегнуць атручвання, збірайце толькі ядомыя грыбы, якія добра ведаеце;
- не збірайце грыбы ў лесе, забруджаным радыенуклідамі, каля прамысловых прадпрыемстваў, фермаў, каля шашы і чыгункі. Грыбы ўбіраюць у сябе радыяцыю, солі цяжкіх металаў і становяцца небяспечнымі;
- не бярыце старыя грыбы. Пры старэнні ў іх адбываюцца складаныя хімічныя працэсы, падчас якіх выпрацоўваюцца атрутныя рэчывы;
- не дазваляйце дзецям браць неядомыя і не спрабуйце самі падазроныя грыбы на смак;
- ніколі не купляйце на рынку грыбныя кансервы, зробленыя дома, а таксама сухія грыбы, грыбную ікру і розныя салаты з грыбамі;
- грыбы – прадукт, які хутка псуецца, не адкладвайце іх апрацоўку.

Летась паводле дадзеных лабараторыі цэнтра гігіены і эпідэміялогіі сярод проб грыбоў радыеактыўнае забруджванне знайшлі ў двух выпадках. Гэтыя забруджаныя грыбы збіралі ў вёсцы Даманова Вілейскага раёна. У іх знайшлі у 2-2,5 раза больш радыеактыўнага цэзію, чым дапускае норма.

**Ірына КАЗАКЕВІЧ,**
**доктар-гігіеніст радыяцыйнай гігіены Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

ЭКАЛОГІЯ

## Віляйчан адзначылі на экалагічным форуме

**ВІЛЕЙКА. Ад 12 да 14 верасня ў Мазыры прайшоў дванаццаты рэспубліканскі экалагічны форум.**

Адтуль з узнагародай вярнулася дырэктар Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Жанна Скуратовіч**.

Калектыў цэнтра на свяце ўзнагародзілі Ганаровай граматай Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі. Так адзначылі працу па ахове навакольнага асяроддзя, экалагічнай асвеце, удзел у конкурсах.

**Аддзел інфармацыі.**

СПАЖЫВЕЦ

## Далі амаль 30 мільёнаў штрафаў за гандаль неправеранымі прадуктамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета да пачатку восені праверылі 19 месцаў, дзе гандлююць прадуктамі. 14 з іх – у Маладзечанскім раёне, пяць – у Вілейцы.**

Праверылі 294 партыі харчовай прадукцыі. З іх 55 партый мелі розныя парушэнні. Прадавалі тавары з прайшоўшым тэрмінам прыдатнасці ці наогул без яго. Многія тавары былі без маркіроўкі, сертыфікатаў, дэкларацый адпаведнасці, на некаторыя не было дакументаў, якія пацвердзілі б іх паходжанне.

**Па выніках праверкі забаранілі прадаваць 55 партый тавараў на агульную суму больш за шэсць мільёнаў рублёў.**

У дзевяці суб'ектаў гаспадарання знайшлі парушэнні Закона “Аб забеспячэнні адзінства вымярэнняў”. Каб разлічвацца з кліентамі, гандляры выкарыстоўвалі неправераныя вагі.

Па выніках дзяржаўнага нагляду склалі 29 адміністрацыйных пратаколаў. 22 з іх разгледзелі суды Маладзечанскага і Вілейскага раёнаў. Гандлёвыя прадпрыемствы аштрафавалі больш чым на 28 мільёнаў рублёў.

17 пунктаў продажу прадуктаў атрымалі прадпісанні аб выпраўленні парушэнняў.

Аддзел дзяржнагляду працягвае праверкі, ці трымаюцца заканадаўства пры продажы харчовай прадукцыі.

Інспекцыя Дзяржстандарту працуе, каб абараняць правы і законныя інтарэсы грамадзян ад нядобрасумленных юрыдычных асоб і прадпрымальнікаў, якія гандлююць прадуктамі.

**Аксана ПЯРШАЕВА,**
**галоўны дзяржаўны інспектар інспекцыі Дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску, Маладзечне.**

ПЕРШАЯ ЛІГА

# Зноў перамога, зноў галы Рындзюка

**СМАРГОНЬ. Футбольны клуб "Смаргонь" 13 верасня атрымаў чарговую перамогу. У сталіцы смаргонцы абыгралі "Мінск-2" з лікам 3:1.**

На 14-й хвіліне чарговы гол забіў **Мікалай Рындзюк**. Неўзабаве яго пачын падтрымаў **Ігар Жураўлёў** – 2:0. У другім тайме гаспадары адзін год адквіталі. Але за некалькі хвілін да канца матча зноў вызначыўся **Мікалай Рындзюк**.

Другі матч запар Мікалай забівае па два галы!

Недарэмна пасля матча галоўнаму трэнеру ФК "Смаргонь" **Паўлу Бацюту** давялося адказваць на пытанне пра Мікалая:

**– У двух апошніх матчах ён двойчы стрэліў "дуплетам". Амаль усе трэнеры кажуць, што ён – галоўная пагроза "Смаргоні". У Мікалая пачалася "другая маладосць"?**

– Галоўнае, гэта матывацыя. А з ёй у Колі ўсё ў парадку. Гульні паказваюць, што ў яго ёсць яшчэ порах у парахаўніцах. А што тычыцца выканаўчага майстэрства, то гэта, як кажуць, "што ёсць, то ёсць".

А вось што **Павел Бацюта** сказаў наконт гульні (паводле афіцыйнага сайта клуба "Смаргонь"):

– Ведалі, што "Мінск-2" – каманда, якая можа зрабіць сюрпрыз. Таму ўстаноўка была такая: з першых хвілін даць зразумець саперніку, што ў іх няма шанцаў зачапіцца нават за нічыю.

Мы адразу пайшлі наперад і шукалі шчасця ля чужых варот. У першым тайме забілі два добрыя галы, але ў другім прапусцілі неабавязковы гол, пачалася нервовая гульня. Будавалі сваю гульню на контратаках і забілі трэці гол, які зняў усе пытанні адносна пераможцы гэтага матча.




Мікалай Рындзюк, як і ў мінулым матчы, забіў два галы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ХАКЕЙ

## "Дынама-Маладзечна": два паражэнні запар

**МАЛАДЗЕЧНА. У першым дамашнім матчы ў рамках 23-га Адкрытага чэмпіянату Беларусі, які адбыўся 11 верасня ў Маладзечне, гаспадары лёду прайгралі жлобінскаму "Металургу".**

Другі ж дамашні матч прынёс расчараванне ад каманды з Гомеля.

### "Дынама-Маладзечна" прайграла Жлобіну па булітах 1:2

Гульня супраць каманды Жлобіна была драматычнай, і вырваць перамогу гульцы "Металурга"змаглі толькі ў серыі булітаў.

Першыя два перыяды гульні прайшлі ва ўзаемнай барацьбе камандаў за вароты сапернікаў. Але і ў першай, і ў другой трэці гульні шайба не трапіла ні ў вароты маладзечанскага варатара **Яна Шэлепнева**, ні жлобінскага варатара **Сяргея Гарэлава.**

У трэцім перыядзе маладзечанцы ўзялі вароты "Металурга". Дакладны ўдар **Ірэка Хафізава** зрабіў лік 1:0 на карысць гаспадароў. Праз тры хвіліны дакладны кідок **Віталя Марчанкі** зрабіў лік нічыйным.

Авертайм таксама не выявіў пераможцу сустрэчы. Толькі ў серыі булітаў фартуна апынулася на баку "Металурга". Як вынік, перамога жлобінскіх хакеістаў.

### Хакейны клуб "Гомель" вырваў перамогу ў Маладзечна – 4:3

Гульня, якая адбылася ў суботу, 13 верасня, супраць каманды з Гомеля парадавала аматараў хакея сваёй вастрынёй і непрадказальнасцю.

Ужо ў першым перыядзе, вострa атакуючы сапернікаў, змаглі заявіць, што на лёд яны выйшлі для таго, каб перамагаць. Тры шайбы ў вароты гамельчукоў сталі таму пацвярджэннем. У "Дынама-Маладзечна" забівалі **Аляксей Аўтаеў, Багдан Зазон і Станіслаў Лапачук.**

У другім перыядзе гасцям пашчасціла адквітаць адну шайбу. Маладзечанцы ж засталіся задаволенымі трыма шайбамі, забітымі ў першым перыядзе.

У самым пачатку трэцяга тайма гамельчукі змаглі адквітаць яшчэ адну шайбу. А літаральна за некалькі хвілін да фінальнай сірэны, хакеісты "Гомеля" зраўнялі лік гульні.

У авертайме, вырашыўшы перамагчы любым чынам, гамельчукі не далі маладзечанцам ніводнага шанцу на перамогу. **Антон Пульвер** зрабіў лік канчатковым – 3:4 на карысць ХК "Гомель".

**Наступную гульню маладзечанцы сыграюць супраць каманды з Віцебска, а на дамашняй арэне падначаленыя Дзмітрыя Краўчанкі сыграюць 21 верасня. Супрацьстаяць "Дынама-Маладзечна" будзе каманда з Магілёва.**

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

### "Маладзечна-ДЮСШ-4" лідзіруе ў чэмпіянаце вобласці

**МАЛАДЗЕЧНА.** На выхадных пачаліся гульні другога этапу чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе. У ім удзельнічаюць па чатыры лепшыя каманды з груп "А" і "В". Пры гэтым улічваюцца ачкі, набраныя ў сустрэчах паміж сабой. На другім этапе каманды правядуць па восем матчаў. Згуляюць дома і на выездзе з камандамі, з якімі не сустракаліся на першым этапе.

"Маладзечна-ДЮСШ-4" на выездзе 14 верасня гуляў з "Нёман-Агра". Маладзечанцы ўпэўнена перамаглі 4:0. Галы на рахунку **Фёдарава, Новікава, Татуна і Чабрыцкага.**

"Маладзечна-ДЮСШ-4" займае першае месца ў турнірнай табліцы чэмпіянату. У каманды 15 ачкоў. Стольки ж – у "Жодзіна-2007", на ачко менш – у ФК "Старыя Дарогі". Гэтыя тры каманды адарваліся ад пераследнікаў. Яшчэ у васьмёрцы лепшых змагаюцца ФК "Любань", "Барысаў", "Зорка-РФАЦ-Вікторыя", "СМІ-аўтатранс", "Нёман-Агра".

### Згуляюць у стыкавых гульнях

**ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА, ВАЛОЖЫН.** Каманды, што не трапілі ў васьмёрку лепшых у чэмпіянаце вобласці, аспрэчаць месцы з 9 па 20. Для гэтага правядуць стыкавыя сустрэчы з камандамі з іншай групы.

За 11-12 месцы згуляюць "Вілія" і "Лівадзія-Юні". Гульні пройдуць 21 і 28 верасня. "Капыль" і "Забудова-2007" разыграюць 13-14 месцы (27 верасня і 4 кастрычніка).

"Валожын-2010" з "Нясвіжам" паспрачаюцца, хто стане галоўным няўдачнікам турніру: зойме апошняе, дванаццае, месца. Сустрэчы адбудуцца 20 і 27 верасня.

### Вілейскія каратысты заваявалі дзве бронзы ў Расіі

**ВІЛЕЙКА.** Тры віляйчаніны ўдзельнічалі ў міжнародным турніры па каратэ. Адбыўся ён 6 верасня ў горадзе Адзінцова ля Масквы. Прысвячаўся турнір 160-годдзю сяброўскіх адносін Расія-Акінава.

У турніры пераважна ўдзельнічалі клубы з Масквы і Падмаскоўя. Але былі спартсмены не толькі з Расіі, але і з блізкага замежжа. Усяго – 350 чалавек.

– Турнір прадстаўнічы. І калі хлопцаў праводзілі ў Мінску, казалі, што галоўнае – паказаць добрую тэхніку. А яны і прызавыя месцы занялі, – кажа трэнер вілейскага клуба "Самурай" **Сяргей Кірыевіч.**

У турніры удзельнічалі віляйчане **Павел і Мікіта Кірыевічы, Яўген Канапелька.**

Два з іх занялі трэція месцы. У сваіх вагавых катэгорыях Павел Кірыевіч вызначыўся сярод 16-17-гадовых удзельнікаў, а Яўген Канапелька – паміж спартсменаў 18 год і старэйшых.

### "Першы Беларускі" павялічвае адрыў

**ВІЛЕЙКА.** У чэмпіянаце раёна па футболе пачаліся гульні трэцяга круга. "Мехатроніка" згуляла ўнічыю 1:1 з "Чурлёнамі", расказаў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан.** "Першы Беларускі" на выездзе абыграў "Вязынь" 5:1.

"Першаму Беларускаму" ўдалося яшчэ больш адарвацца ад пераследнікаў.

Цяпер "Мехатроніка", якая ідзе другой, адстае ад лідара на пяць ачкоў.

### Прайшлі спаборніцтвы па тэхніцы турызму

**МЯДЗЕЛ.** Гарадскія спаборніцтвы "Турляндыя" адбыліся ў Старамядзельскім парку 10 верасня. Удзельнічалі ў іх навучэнцы малодшага і сярэдняга ўзросту.

Прынялі ўдзел восем камандаў з гарадскіх устаноў адукацыі раёна.

Яны пераадольвалі розныя перашкоды, адказвалі на пытанні віктарыны "Край мой – Беларусь", паведаміў дырэктар цэнтра турызму Мядзельскага раёна **Алег Жыхар.**

Лепшай стала каманда Мядзельскай СШ №1.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### ФК "Маладзечна" саступіў ФК "Узда" – 2:4

**МАЛАДЗЕЧНА.** Маладзечанцы пакінулі за сабой сёмы радок турнірнай табліцы. Гульня адбылася на гарадскім стадыёне 13 верасня.

На гэты раз адкрыць лік матча маладзечанцам пашчасціла на 5 хвіліне. Дакладны ўдар па варотах гасцей з Узды здзейсніў нападаючы **Сяргей Тарчыла.** Але праз 20 хвілін гульцы Узды зрабілі лік нічыйным. Пасля перапынку мячы адзін за другім траплялі ў вароты маладзечанцаў.

Лік на табло за 15 хвілін да фінальнага свістка стаў 1:4 на карысць ФК "Узда". Толькі за пяць хвілін да канца асноўнага часу **Андрэй Шаблінскі** змог адквітаць адзін мяч.

**Наталля ТУР.**

● НАМ ПІШУЦЬ



# Віншую пляменніка праз любімую газету

**Калі майму пляменніку Жэню Кузьмічу з Вілейкі было два з паловай гадкі, "РГ" прапанавала чытачам напісаць пра свайго абаронцу. Я напісала пра будучага абаронцу. Даслала фота, дзе Жэня сядзіць за рулём камбайна, напісала верш, над якім карпела вельмі доўга. І я перамагла! Мой ліст выбралі лепшым.**

Мінула восем год. У нядзелю, 21 верасня, Жэня будзе святкаваць свой 10-гадовы юбілей.

З гэтай нагоды праз любімую газету з найлепшымі пажаданнямі віншуем яго гэтым вершам мы: цётка **Вольга**, брат **Іван** і бабуля **Тамара**.

*Троху я ужо падрос,*
*У гімназіі вучуся.*
*Я не задзіраю нос!*
*У мяне малодшы брат,*
*На камбайне ён ганяе.*
*У мяне і без таго*
*Клопатаў і так хапае:*
*У інтэрнэце пасядзець,*
*Вырашыць, што мне надзець,*
*Як дзяўчынцы пазваніць,*
*Маці ў магазін схадзіць.*
*Хоць усяго мне 10 год,*
*Не баюся перашкод!*
*Трэба ўсім дапамагаць,*
*Для Радзімы працаваць.*
*А як цётка завітае*
*І яе сынок Іван,*
*То суседзям усім хапае –*
*Смех і шум і там, і там!*
*Мы – тры браты-акрабаты*
*"Строім" увесь раён Шанхай.*
*Зможам усіх абараніць,*
*І за сябра гарой быць!*

**Вольга ЖАБЦОВА, Маладзечна.**

Паглядзець фота Яўгена і прачытаць верш, надрукаваныя восем гадоў таму, можна на сайце







Вілейскі школьнік Яўген Кузьміч.

## Мінскі абласны драматычны тэатр. Адкрыццё 24 тэатральнага сезона

*РЭПЕРТУАР НА ВЕРАСЕНЬ*

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Цырк, Цырк, Цырк!"** (тэатральнае цыркавое прадстаўленне), Мікіта Благаў
23, аўторак, і 24, серада, – у 11:30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча), Уладзімір Рудаў
23, аўторак, – у 19.00

ПРЭМ'ЕРА. **"Афінскія вечары"** (сучасная гісторыя), Пётр Гладзілін
24, серада, і 30, аўторак, – у 19.00

Пасля прэм'еры для гледачоў будзе арганізаваная сустрэча з артыстамі, занятымі ў спектаклі, і ўдзельнікамі пастановачнай групы.

Тэатр мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*
Тэл. для даведак: 75-24-17 (каса), 76-17-32 (галоўны адміністратар), 75-29-16 (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | 5 |
| 4 | | | | 5 | 9 | | | 2 |
| | 9 | 8 | | | 1 | | 7 | 6 |
| | 2 | 4 | | | | | | |
| | | 6 | 3 | | 7 | 5 | | |
| | | | | | | 2 | 6 | |
| 2 | 8 | | 5 | | | 1 | 4 | |
| 6 | | | 1 | 9 | | | | 7 |
| 7 | | | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9сустракалася толькі адзін раз.



● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Камедыя **"Карпаратыў"** (Расія, 2014, фільм дазволены для паказу гледачам з 18 гадоў)
19 верасня – у 22:00
20 верасня – у 20:00, 22:00
21 верасня – у 20:00
22 верасня – у 21:00
23, 24 верасня – у 22:00
25 верасня – у 20:00
Цана білета: 45 000-50 000 рублёў

Прэм'ера! Фантастычны трылер **"Бягучы ў лабірынце"** (ЗША, 2014, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 гадоў)
25 верасня – у 22:00
Цана білета: 50 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыйныя прыгоды **"7-ы гном"** 3D (Германія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
19-21 верасня – у 18:00
22 верасня – у 19:00
23 верасня – у 18:00
24 верасня – у 20:00
25 верасня – у 18:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Прэм'ера! Сямейныя прыгоды **"Гісторыя дэльфіна 2"** (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
20 верасня – у 15:30
21 верасня – у 13:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Прэм'ера! Фантастычны баявік Люка Бесона **"Люсі"** (Францыя, 2014, прагляд фільма дазволены гледачам з 16 гадоў)
19 верасня – у 20:00
21 верасня – у 22:00 (50 000 рублёў)
23 верасня – у 20:00
24 верасня – у 18:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыйная камедыя **"Самалёты: Агонь і вада"**, 3D (ЗША, Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
20 верасня – у 13:30
21 верасня – у 16:00
Цана білета: 30 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прэм'ера! Камедыя **"Самотны па кантракце"** (Украіна, 2014)
19, 20 верасня – у 21:30
21 верасня – у 19:30
22 верасня – у 21:30
23, 24 верасня – у 19:30
25 верасня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма, камедыя **"Гэтай раніцай у Нью-Ёрку"** (ЗША, 2014, дзецям да 12 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19, 20 верасня – у 19:30
21 верасня – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма **"На крылах"** (Расія, 2013, дзецям да 12 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
20 верасня – у 17:30
21 верасня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер **"Окулус"** (ЗША, 2013)
23, 24 верасня – у 21:30
25 верасня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгоды **"Неверагодныя прыгоды"** (Беларусьфільм, 2014)
19 верасня – у 17:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя **"Шалёны спецназ"** (ЗША, дзецям да 14 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19, 20, 21 верасня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер **"Окулус"** (ЗША, фільм дазволены для паказу гледачам з 16 гадоў)
19, 20, 21 верасня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя **"Кот Гром і зачараваны дом"** (ЗША, без узроставых абмежаванняў)
20, 21 верасня – у 15:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

● ГАРАСКОП (19-25 ВЕРАСНЯ)



**Авен.** Наступае той момант, калі лёс сам вядзе вас па шляху, які вядомы толькі яму, а вам трэба смела ісці следам і не супраціўляцца падзеям, якія будуць адбывацца з вамі. Гэта ваш шанец.



**Цялец.** Зусім хутка вы будзеце на сёмым небе ад шчасця. З вамі адбудзецца нешта незвычайнае, што пераверне ўвесь ваш уклад жыцця.



**Блізняты.** Лоўкасць і кемлівасць дапамогуць у складаных сітуацыях і зробяць вас больш моцнымі ўнутры.



**Рак.** Зоркі прадракаюць вам адкрыццё ў сабе дызайнерскіх здольнасцей, таму рабіце рамонты, добраўпарадкоўвайце сваё гняздо.



**Леў.** Сілкуйце сваё сэрца, нутро любоўю кожны дзень, і гэта будзе лепшымі лекамі ад хвароб, стрэсаў. Больш бывайце на прыродзе і любуйцеся яе прыгажосцю. Навучыцеся бачыць у кожным чалавеку толькі добрае.



**Дзева.** Цяпер актывуецца падсвядомасць, могуць быць яркія і важныя сны. Звярніце на іх увагу, можа, менавіта ў іх вам даецца нейкая падказка.



**Шалі.** "Пасяліце" ў сваім сэрцы любоў, мяняйцеся самі да лепшага, і тады вы будзеце аказвацца ў патрэбным месцы ў патрэбны час.



**Скарпіён.** Вы проста абавязаныя ўнесці ў сваё жыццё новы струмень! Любыя пачынанні будуць падтрыманыя. І ведайце, што пазітыўныя думкі здольныя збывацца.



**Стралец.** У вырашэнні любога пытання прыслухоўвайцеся да свайго сэрца, умейце пачуць, што "кажа" інтуіцыя, развівайце яе, і тады ў вас многія пытанні вырашацца самі па сабе.



**Казярог.** Змены ў асабістым жыцці не адбудуцца самі па сабе, прыкладаіце намаганні, каб усё змянілася да лепшага. Не думайце, што вы не ведаеце, з чаго пачаць. Вы ўжо даўно ў галаве выношваеце план. Рабіце першыя крокі.



**Вадалей.** Вы прыцягнеце да сябе ўвагу супрацьлеглага полу, таму сумаваць не прыйдзецца. Прыглядзьцеся, магчыма, вы адшукаеце родную душу.



**Рыбы.** Вас чакае нечаканы прыбытак, а таксама прыемныя нечаканасці на працы. Вы можаце нічога не рабіць, але ўсё будзе складвацца надзвычай спрыяльна.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт Rh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

## НАДВОР'Е

20 верасня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +8 +18 | 749 ↖ 3 | +10 +15 | 744 ↖ 3 | +11 +14 | 741 ↘ 2 | +10 +12 | 735 ↓ 3 |
| Вільня | +9 +19 | 756 ↑ 5 | +10 +17 | 752 ↖ 4 | +8 +18 | 748 ↗ 1 | +11 +13 | 746 ↓ 6 |

Тэмпература Вобла начы паветра ... ападкі; Ціск; Хуткасць ветра (мм рт. сл.) м/с

Усход 7.08, Захад 19.29, Даўжыня дня 12.21

Усход 02.46, Захад 17.28, Квадра 4

Віцебск +8 +19, 752 ↑ 4
Мінск +10 +15, 744 ↖ 3
Гродна +11 +18, 750 ↙ 4
Магілёў +7 +17, 751 ↑ 4
Гомель +8 +18, 755 ↑ 4
Брэст +13 +21, 748 ↖ 1

### ПРЫКМЕТЫ

- На Фёдара (25 верасня) лету канец – восені пачатак. "Не ўсялякае лета да Фёдара дацягне". Пачынаюцца восенськія дажджы.
- Гусі ляцяць нізка – зіма блізка, а высока – зіма далёка.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Дзе збіраецца моладзь?

**Максім Крыкун, навучэнец музкаледжа:**

– Я гуляю з дзяўчынай пераважна па горадзе. У клубы мы не ходзім. Трэба больш піцэрый, бо чэргі вельмі вялікія. А так для моладзі ўсяго хапае.

**Артур Васілеўскі, аўтаслесар:**

– Збіраюцца ў парку, на "Брадвеі". Сам ужо выйшаў з таго ўзросту, калі хадзіў у клубы. Мне здаецца, што для моладзі хапае месцаў для адпачынку.

**Дыяна Крук, навучэнка політэхнічнага каледжа:**

– Мне вельмі падабаецца ў парку, часта гуляю там з сябрамі. Хаджу ў боўлінг ў Лядовы палац. Месцаў для адпачынку моладзі хапае.

**Надзея Раманенка, маладая мама:**

– Я ў дэкрэце. Не ведаю, дзе збіраецца моладзь. Сама нікуды не хаджу.

**Анастасія Грыгулевіч, студэнтка:**

– Раней моладзь збіралася на "Брадвеі", у дварах, каля Палаца культуры, на "таблетцы", на "прышчэпцы". Моладзь павінна быць загружаная: хадзіць у розныя секцыі, гурткі, паходы. Трэба, каб не сядзела дома, была занятая справай.

Падрыхтавалі Вольга ЮРКЕВІЧ, Галіна СІНІЦА.

## Чытайце праз тыдзень:

Што аб'ядноўвае бойкіх бабулек, прыгажунь бальзакаўскага ўзросту, пасівелых рыцараў, а таксама пары, якія даўно адсвяткавалі жамчужнае, рубінавае ці залатое вяселлі? Хочаце даведацца, чытайце РГ на наступным тыдні.



Рэгіянальная газета. Rh.by
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 38 (1012) 19.09.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02385 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 783. Падпісана ў друк у 10.00 18.09.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.